№1(10)
2000г.
студзень

# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Грамадска - палітычная, асветніцкая газета

Выдаецца са жніўня 1996 г.

Кошт свабодны

***Паважаныя чытачы!***

*Ужо не ў першы раз вы атрымалі нумар газеты на васьмі старонках замест чатырох. Рэдакцыя прыкладзе максімум намаганняў, каб у бліжэйшы час газета цалкам перайшла на такі фармат.*

*Заставайцеся з намі і ўносце свой уклад у «гоман» Барысаўшчыны!*

## ЗАХАВАЕМ АБО ЗНІШЧЫМ?

Вуліца, якая зараз носіць імя Дзяржынскага, з XVII стагоддзя (а магчыма і з XIV - XV) да пачатку XX стагоддзя з'яўлялася адной з цэнтральных вуліц Барысава. Найбольш старая яе назва, якая сустракаецца ў адным з дакументаў 1680 года, - Аршанская вуліца. Так яе звалі таму, што па ёй з цэнтра горада пачынаўся шлях на Воршу.






Зараз на былой Аршанскай вуліцы захавалася гістарычная забудова канца XIX - пачатку XX стагоддзя. Аднак з цягам часу старых будынкаў на ёй становіцца ўсё меней і меней... Ці зможам мы яе захаваць для нашчадкаў?

## Ветлівасць

Кожны з барысаўцаў наведвае розныя крамы нашага горада. Не заўсёды мы застаемся задаволенымі тым, як нас абслугоўваюць. Высокія патрабаванні і невялікі заробак даволі часта робяць прадаўцоў нherветлівымі. Але ёсць і такія крамы, куды зайсці заўсёды прыемна. Вось, напрыклад, магазін ГВП «Веста» №44 , што на вул. Бельскага. Ветлівы калектыў на чале з загадчыцай Паўлавец Валянцінай Сямёнаўнай заўсёды рады пакупнікам і кваліфікавана дапамогуць зрабіць пакупку. Тавар у краме самы разнастайны: трыкатаж, галантарэя, музтавары, посуд, канцылярскія тавары, цацкі, дываны... Чаго тут толькі няма! Але работнікі крамы ўважліва адносяцца да кожнага наведвальніка. Будзем спадзявацца, што з цягам часу нас, пакупнікоў, будуць сустракаць так у кожнай краме Барысава.

*І.Сямёнава*

## Пра камароў

Жыхароў шматпавярховых дамоў, што знаходзяцца ў раёне завода агрэгатаў, цяжка здзівіць з'яўленнем у іх уласных кватэрах разнастайных «хатніх жывёлін». Тараканы, палявыя мышы і нават пацукі адчуваюць сябе там калі не гаспадарамі, то паўнапраўнымі жыхарамі, напэўна. Нядаўна да гэтай вялікай «сям'і» дабавіліся... камары.

Адкуль узяліся гэтыя надаедлівыя насякомыя пасярод, можа, і не вельмі суровай, але ўсё ж зімы? Як заўсёды ў нашай краіне, усё тлумачыцца вельмі проста. З надыходам халадоў амаль ва ўсіх падвалах пачалі цячы трубы ацяплення. У лужынах і нават маленькіх азёрах цёплай вады камары, якія, напэўна, спалі ў падвалах у чаканні наступнага лета, адклалі свае яйкі і такім чынам пачалі актыўна размнажацца.

І зараз жыхары гэтых злашчасных шматпавярховак вымушаны прачынацца ноччу ад надаедлівага піску і гадзіну-другую ганяцца з мухабойкай за паланіўшымі іх кватэры крывапіўцамі. Але большасць з іх не крыўдзіцца і дзякуе богу за тое, што ў Беларусі няма малярыйных камароў і трапічнай ліхаманкі.

*С.Нялюбін*

## Парашутысты Барысава, дзе вы?

Люблю прайсціся па вуліцах горада, пачытаць іх назвы. Звычайна з гэтых назваў можна даведацца пра гісторыю ці асаблівасць гэтага краю.

Наш Барысаў, як я зразумеў, з'явіўся недзе пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Калі хто ўпершыню трапіць у наш горад, зразумее гэта менавіта так, бо пачынаецца першае падарожжа па праспекту Рэвалюцыі. А дабраўшыся да цэнтральнай плошчы, госць убачыць вялікі помнік не заснавальніку горада князю Барысу, а рэвалюцыйнаму правадыру. Гэта ўражанне пацвярджаецца вялікаў колькасцю назваў вуліц:

*(Працяг на стар.6)*

## «Зайчыкі» не патрэбны?

Менавіта так можна вырашыць, трапіўшы ў павільён «Галантарэя», які знаходзіцца побач з гастраномам «Паўночны». Здаецца, што ўвесь тавар у гэтай краме можна набыць толькі за злотыя, калі верыць сваім вачам і цэннікам. Ці то ў Польшчу трапіў, ці то грошы беларускія адмянілі... Так, польскія цэннікі вельмі прыгожыя, але навошта ўводзіць у зман пакупнікоў?

*І.Сямёнава*

## Рыхтуемся да юбілею

Каму даводзілася прайсці вуліцаю «8-га сакавіка», той напэўна ж звярнуў увагу на аднапавярховы дамок з шыльдай «Гарадскі цэнтр тэхнічнай творчасці». Між тым гэта ўстанова займае асаблівае месца ў гарадской сістэме адукацыі, з'яўляецца яе гонарам.

Кожны год шмат вучняў нашых школ атрымліваюць веды і навыкі ў яе гуртках спартыўна-тэхнічнага напрамку. Пра цэнтр добра ведаюць не толькі ў горадзе, але і ў рэспубліцы. Толькі ў гэтым годзе выхаванцы гуртка М.І.Зубарава занялі 2 месца ў рэспубліцы па радыёспорту, а выхаванцы В.П.Якубенкі - 1 месца ў вобласці па судамадэльнаму спорту.

Цэнтр рыхтуецца да юбілею - у траўні 2000 года яму споўніцца 55 гадоў.

Цікавы чалавек - кіраўнік гэтай установы Віктар Паўлавіч Асіпенка. Ужо 12 гадоў ён, былы вайсковец, кіруе тэхнічнай творчасцю ў горадзе і знаходзіць толькі радасць у сваёй працы.

*М.Пучыла*

## Злачынстваў меней?!

Аналіз колькасці злачынстваў па Барысаву за апошнія 8 год паказвае, што іх максімум прыпадае на 1994 год. Потым пачынаецца яго павольнае памяншэнне. Працэнт раскрывальнасці злачынстваў за разглядаемы перыяд павялічваецца і з 1992 па 1998 год стаў болей на 23,5%. У 1999 годзе меў месца яго спад на 1,7%.

*Падрыхтаваў М.Лазар*







Нагадваем што на газету **«Гоман Барысаўшчыны»** можна падпісацца ў любым аддзяленні сувязі. Падпісны індэкс выдання **64184.** Кошт індывідуальнай падпіскі:

на **1** месяц - **90** тыс. руб.
на **3** месяцы - **270** тыс. руб.

Кошт ведамаснай падпіскі:

на **1** месяц - **135** тыс. руб.
на **3** месяцы - **405** тыс. руб.


Першы фальклорны фестываль, 1997 г.

# Адраджэнне, развіццё, пераемнасць

Хутка будуць падведзены вынікі доўгатэрміновай праграмы раённага Цэнтра народнай творчасці «Адраджэнне, развіццё, пераемнасць», накіраванай на падтрымку і развіццё аўтэнтычнай фальклорнай культуры Барысаўшчыны.

Праца навукоўцаў вялася па трох асноўных напрамках ці зонах этнаграфічных даследванняў: Вяляцічы, Мётча, Лаўніца. Формы абрадавай творчасці, аўтэнтычнага танцавальнага фальклору, песеннай і гульнёвай творчасці, выяўленые на Барысаўшчыне, без пераўвелічэння можна назваць унікальнымі.

Так, напрыклад, быў усебакова даследаваны абрад лаўніцкага вяселля, які ўтрымлівае сапраўды такія выключныя элементы, як вясельны каравай з дзвюма свечкамі.

Ці абрад перанясення Міхайлаўскай свечкі: на Міхайлаў дзень людзі збіраюцца, каб з хаты ў хату пранесці палаючую свечку і ачысціцца ад уздзеяння цёмных сіл. Свечка сімвалізуе дабро і дабрабыт - лічыцца, што злы чалавек, злодзей не можа занесці яе ў сваю хаціну. Відавочна, што гэты абрад ўяўляе сабой сумесь праваслаўя і паганства, што характэрна для абрадаў вёсак Барысаўшчыны.

На жаль, праграма, разлічаная на тэрмін да 2000 года, у апошні год з-за недахопу фінансавання дзейнічала ў дастаткова сціплых межах. Таму, верагодна, яна будзе прадоўжана. Жаданне працягваць працу над праграммай тлумачыцца ростам цікавасці да самабытнай культуры і адчувальнаму жаданню мясцовых жыхароў стаць непасрэднымі ўдзельнікамі усіх праводзімых Цэнтрам мерапрыемстваў.

Праграма яшчэ раз паказала, што пласт народнай культуры менавіта на Барысаўшчыне невычарпальны.

*С. Нялюбін*


Абрад вяселле. Народны калектыў «Лаўнічанка»

## Вяляціцкія майстры:

Шчэрба Любоў Сяргееўна



Гермаліт Аляксандрына Сяргееўна



Мажэйка Таццяна Ігнацьеўна



# Тайны ўзвышша

Недалёка ад вёскі Загацец у лесе сярод ялін і бяроз знаходзіцца гарадзішча - высокае ўзвышша з равамі і валамі. Калі б яно магло гаварыць, то распавяло б нам аб многіх важных гістарычных падзеях, сведкамі якіх яно з'яўлялася.

Шмат тайнаў і невядомага звязана з гэтым месцам. Паданне, што дайшло да нашага часу, гаворыць, што калісьці вельмі даўно тут стаяла царква. Яна нічым не адрознівалася ад іншых тагачасных бажніц. Людзі навакольных вёсак хадзілі ў яе на нядзельныя набажэнствы. Але аднойчы адбылася жудасная падзея. У сценах храма быў забіты чалавек. Гнеў Божы апусціўся за гэта на царкву. Зямля забурліла, як вада, падняліся высокія земляныя хвалі, і храм, як маленькі бездапаможны караблік у час вялізнага шторму, апусціўся ў нетры зямлі.

Так, згодна паданню, утварылася ўзвышша з равамі і валамі, якія захаваліся па сённяшні час.

*А.Чарнуха*

# Неманіца

*Рэдакцыя ГБ атрымала ліст ад святара айца Міхаіла Барашка настаяцеля царквы СВЯТОЙ Троіцы, што будуецца ў Барысаве ў гонар вайскоўцаў жыццё сваё за айчыну паклаўшых. У лісце прыводзяцца цікавыя звесткі аб Неманіцы і яе прыходзе канца XIX стагоддзя. Яны сабраны айцом у царкоўным архіве Мінскага епархіяльнага ўпраўлення праваслаўнай царквы. Сёння гэтыя архіўныя звесткі прапануюцца нашым чытачам.*

Мястэчка Неманіца лічылася ў першай благачынніцкай акрузе Барысаўскага уезда і знаходзілася ў 80 вярстах ад губернскага горада Менска і 7 вярстах ад Барысава.

Жыхары Неманіцы карыстаюцца паштовым і чыгуначным сродкамі руху. У раёне прыхода пры вёсках Ухалода, Пагадзіца і Жыцькава раскіданы старажытныя курганы, а пры вёсцы Стайкі знаходзіцца акоп з назвай Гарадзішча. У двух вярстах ад Неманіцы знаходзіцца рымска-каталіцкі Касцёл Кальварыя, у якім маецца цудатворная ікона Збавіцеля. Па паданнях гэта ікона раней знаходзілася ў праваслаўнай Царкве вёскі Стайкі.

Існуючая раней у вёсцы Неманіца Царква была спалена французамі ў 1812 годзе. У 1816 годзе на сродкі казны пабудавана новая царква ў гонар вярхоўных апосталаў Пятра і Паўла. Царква была драўляная, на каменным падмурку. Збудавана квадратам з адным глухім купалам у сярэдзіне. Дах драўляны, вокны ў адзін рад, не маюць кратаў. Унутраная плошча 25 квадратных сажэняў, столь падшыта дошкамі, падлога драўляная, сцены непафарбаваныя, халодныя.

Памяшканне для рызніцы зроблена ў прытворы. Іканастас з дошак, пафарбаваны ў сіні колер, з пазалотай толькі на царскіх дзвярах. Іканастас мае сем ікон простага пісьма. Царква мае поўны прыбор літургічных сасудаў, крыж і дарасхоўніца з срэбра 84 пробы. Аблачэнняў святарскіх дзевяць прыбораў, у тым ліку чатыры з мішурчнага паркалю, тры паўаксамітных і два палатняных, усе ў добрым стане. Маецца чатыры богаслужэбных Евангелля: адно ў ліст, у суцэльным металічным акладзе, другое ў 1/2 ліста ў скуры, трэцяе ў 1/4 ліста, абкладзенае ў верхняй частцы апліканым акладам і чацвёртае ў ліст, абкладзена плісам і па плісу срэбраныя навугольнікі і сярэдзіна. Чацвёртае Евангелле вельмі каштоўнае, яно надрукавана у 1605 годзе ў Львове.

У царкоўным архіве метрычныя кнігі і іспаведныя спісы захоўваюцца з 1812 года. На царкоўнай званіцы маецца чатыры званы: 13,3,2 і 1пуд. У прыходзе існуюць 7 могілак і на трох, у Жыцькаве і Ухалодзе збудаваны могілкавыя цэрквы.

У склад прыхода ўваходзяць наступныя вёскі: Неманіца, Сялітранкі, Стайкі, Пагадзіца, Жыцькава, Ухалода і Завалы. Прыхаджан лічыцца мужчынскага полу - 1031, а жаночага - 1038 душ, усе яны сялянскага саслоўя, а займаюцца земляробствам, а ў зімовы час заробкамі ў лясной прамысловасці.

Сяляне дальніх вёсак вельмі рэдка прымаюць удзел у святочных набажэнствах, але пры наведванні святарамі сялянскіх дамоў заўважаецца добрая рэлігійнасць, сціпласць, дзеці выхоўваюцца ў веры, выконваюць пасты і святы, жывуць мірна і ў згодзе гавеюць, захоўваюць звычай адпраўляцца на багамолле ў Вяляцічы, Бялынічы і Халяўшчыну.

Настаяцелем Царквы з'яўляецца святар Васіль Мацкевіч - студэнт семінарыі, святарстве з 1869 года, мае ўзнагароду набедраннік. З 1861 года псаломшчыкам працуе Мікола Паняточкі.

Царкоўнага прыбытку ў год паступае 100 рублёў. Царква валодае зямлёй: сядзібнай - 3 1/2, ворнай - 50, сенакоснай - 12, няўдобіцы і пад зараслямі - 70 дзесяцін. Сядзіба святарская знаходзіцца ў 1 вярсце ад Царквы, а прычтавая каля самой Царквы. Астатняя зямля знаходзіцца ў дзвюх месцах: 80 дзесяцін каля Неманіцы, 40 дзесяцін каля вёскі Стайкі. На гэту зямлю маецца дакумент выданы ў 1730 годзе валадаром Барысаўшчыны Марцынам Агінскім.

Плана і межавай кнігі няма, але валодае зямлёй Царква без перашкод. З будынкаў для святара маецца: хата, свіран, гумно, два хлявы, ляднік, склеп, сенавал, хлеў для жывёлы і гумно з авінам.

Пры Царкве існуе царкоўнапрыходскае папячыцельства і штатнае народнае вучылішча. Працэнт адукаванасці дасягае да 10%. Багадзельня адсутнічае.

*Святар айцец*
*Міхаіл Барашка*

# А вы там былі?

У цэнтралізаваную сістэму бібліятэк Барысава ўваходзяць цэнтральная гарадская бібліятэка і некалькі філіялаў.

Праведзены аналіз яе паказчыкаў на працягу апошніх гадоў паказаў рост колькасці зарэгістраваных чытачоў і іх наведванняў бібліятэк, а таксама колькасці кніг, якія былі выданы. Зараз кожны чацвёрты жыхар горада карыстаецца іх паслугамі. Гэта, у першую чаргу, можа быць растлумачана сённяшнім эканамічным становішчам нашага грамадства, калі набыць сябе кнігі або выпісаць усе газеты і часопісы, якія цікавяць, можа дазволіць далёка не кожны. Акрамя таго за апошнія гады павялічылася колькасць навучэнцаў і тых, хто займаецца перакваліфікацыяй. Для многіх з іх гарадскія бібліятэкі - амаль адзіная крыніца патрэбнай інфармацыі.

Найменш наведвальнікаў бібліятэк бывае ў ліпені - жніўні. Пры гэтым іх колькасць памяншаецца ў параўнанні з максімумам больш чым у 2 разы.

*Падрыхтаваў М.Лазар*









*Газета «Гоман Барысаўшчыны» ўжо не раз пісала пра карысць і магчымасці знаёмства з навакольным светам - цікавымі прыроднымі аб'ектамі, здабыткамі культуры праз вандроўкі на роварах (веласіпедах). Гэта самы дэмакратычны і даступны від турызму. Ім могуць карыстацца ўсе - ад сярэдняга ўзросту школьнікаў да пенсіянераў.*

*У далейшым вам будуць прапанаваны практычныя парады па падрыхтоўцы да вандровак, рашэнню праблем, што могуць паўстаць перад вамі. Мы раскажам як пра аднадзённыя маршруты па Барысаўшчыне і Беларусі, так і пра шматдзённыя паходы па нашай дзяржаве і за яе межамі. Мы дапаможам вам пры мінімуме затрат і праблем атрымаць максімум ўражанняў.Сёння вам прапануюцца звесткі аб усіх замках Беларусі, якія хаця б часткова захаваліся да нашых дзён і найлепшыя маршруты для знаёмства з імі.*


Мірскі замак

# Шляхі вядуць...

Беларусь нездарма ў старыя часы лічылася краінай замкаў. На жаль, з-за шматлікіх войн і адкрытага вандалізму толькі адзінкі з іх дайшлі да нашага часу. Цалкам ці часткова захаваліся замкі ў Быхаве, Гайцюнішках, Гальшанах, Геранёнах, Горадні (па-польску - Гродно; два замкі), Крэва, Лідзе, Любчы, Міры, Навагародку (па-польску - Новогрудку), Нясвіжы і Смальянах.

**Быхаўскі замак** пабудаваны напрыканцы XVI -пачатку XVII стагоддзя. Мае памер няправільнага прамавугольніка 77х100 метраў. Раней на гэтым месцы існаваў драўляны замак. Палацавы ансамбль замка ўзведзены ў другой палове XVII - XVIII стагоддзях. У далейшым перабудоўваўся. Захаваліся часткова як вежы, так і палац. На тэрыторыі замка да нядаўняга часу знаходзілася прадпрыемства. На замчышчы маецца краязнаўчы музей.

**Гайцюнішскі дом - крэпасць** пабудаваны ў 1613 годзе. Мае памеры ўсяго 15х34 метра. Таўшчыня сцен - да 1,5 метра. Мае па кутах чатыры круглыя вежы. Добра захаваўся. Да нядаўняга часу тут знаходзілася лячэбная ўстанова.

**Гальшанскі замак** узведзены на мяжы XV - XVI стагоддзяў. У далейшым перабудоўваўся. Мае памеры 88,6х95,6 метраў. Яшчэ пасля другой сусветнай вайны знаходзіўся ў добрым стане. Зараз мае выгляд руін. Захаваліся рэшткі дзвюх вежаў, палаца і іншых замкавых будынкаў.

**Геранёнскі замак** пабудавны напрыканцы XV - пачатку XVI стагоддзя. Меў памеры 27х27 метраў. Па кутах меліся цыліндрычныя вежы дыяметрам па 8 метраў.Сцены замка мелі таўшчыню да двух метраў. Напрыканцы XVI стагоддзя тут быў узведзены двухпавярховы мураваны палац. Замак разбураецца з сярэдзіны XIX стагоддзя. Да нашага часу захаваліся толькі невялікія фрагменты. Усё моцна парасло дрэвамі і хмызняком.

**Гарадзенскі стары замак** існуе з XI стагоддзя. З XII па XIX стагоддзі неаднаразова перабудоўваўся. Меў вежы, палац і шэраг унутраных пабудоў. Таўшчыня сцен замка даходзіла да 2,5 - 3 метраў. Палац быў пабудавны ў 1398 годзе. Перабудоўваўся ў 1580 годзе, адноўлены ў 1678 годзе, надбудаваны ў XVIII - XIX стагоддзях. Захаваўся палац, уязная брама, фрагменты сцен і інш. У будынку палаца знаходзіцца гісторыка - археалагічны музей.

**Гарадзенскі новы замак** (каралеўскі палац) пабудаваны ў 1734 - 51 гадах на месцы ніжняга замка. З'яўляўся рэзідэнцыяй караля Рэчы Паспалітай Станіслава - Аўгуста Паняткоўскага, быў месцам паседжання Генеральных сеймаў Рэчы Паспалітай. У 1944 годзе значна пашкоджаны. Перабудаваны ў 1952 годзе. Пры гэтым істотна зменены яго выгляд. Знаходзіцца ў добрым стане. Выкарыстоўваецца пад розныя ўстановы. Маецца музей.

**Камянецкая вежа** пабудавана паміж 1276-і 1288 гадамі. Мае вышыню каля 30 метраў, вонкавы дыяметр 13,5 метраў, таўшчыня сцен 2,5 метра. Добра захавалася. Маецца музей.

**Крэўскі замак** пабудаваны ў 30-я гады XIV стагоддзя. Мае форму няправільнага прамавугольніка памерамі 85х108,5х71,6х97,2 метра, дзве квадратныя вежы. Сцены таўшчынёй 2,5 - 2,7 метра і вышынёй 12 - 13 метраў. У ім у 1385 годзе была падпісана Крэўская унія. Захаваліся руіны сцен і веж.

**Лідскі замак** пабудаваны ў 30-я гады XIV стагоддзя. Падобны на крэўскі замак, мае форму няправільнага прамавугольніка з даўжынёй сцен каля 80 метраў і вышынёй да 15 метраў. Утрымлівае дзве квадратныя вежы. Таўшчыня сцен у большай вежы дасягае трох метраў. Знаходзіцца ў добрым стане, працяглы час рэстаўрыруецца.

**Любчанскі замак** пабудаваны ў 80-я гады XVI стагоддзя. Меў памеры 64х87 метраў,чатыры вежы, палац і сцены таўшчынёй да 1,3 метра. Замак знішчаны ў сярэдзіне XVIII стагоддзя. Захавалася цалкам адна вежа з уязной брамай і часткова другая вежа.

**Мірскі замак** пабудаваны на пачатку XVI стагоддзя. Мае форму блізкую да квадрата з бокам каля 75 метраў. Сцяна вышынёй 13 метраў і таўшчынёй да 3-х метраў. Утрымлівае па кутах чатыры вежы і пятую з уязной бра-





Горадня. Стары замак


Любча


Нясвіж. Вежа


Навагародак


Сынкавічы


Гальшаны


Гайцюнішкі

Ліда





Камаі



Малое Мажэйкава



Камянец. «Белая вежа»



Горадня. Новы замак

Нясвіж. Слуцкая брама



май. Вышыня веж дасягае 25 - 27 метраў. Палац першапачаткова быў аднапавярховым. Да 1616 года былі дабудаваны яшчэ два паверхі. Замак знаходзіцца ў добрым стане, інтэнсіўна рэстаўрыруецца. Маецца музей.

**Навагародскі замак** існуе з XI стагоддзя. Першая мураваная вежа ўзведзена ў сярэдзіне XIII стагоддзя. Паступова замак цалкам робіцца мураваным. Яго росквіт прыпадае на XVI стагоддзе. Замак меў сем вежаў і мураваныя сцены таўшчынёю да трох метраў. Вежы былі вышынёю да 25 метраў, таўшчынёю да 2,75 метраў. Замкавы роў месцамі дасягае 27 метраў пры нахіле да 60°.Навагародскі замак з'яўляўся адным з самых моцных і непрыступных замкаў на Беларусі. Разбураны ў XVIII стагоддзі.

захавалася, дзейнічае.

Захавалася на Беларусі нямала і іншых старых збудаванняў, якія маюць рысы абарончага дойлідства.

Большасць беларускіх замкаў размешчаны кампактна і іх аб'ехаць на ровары не складае ніякай цяжкасці.

**Першы маршрут**. З Барысава на электрычцы неабходна даехаць праз Менск да Стоўбцаў. Адтуль сваім ходам праз Новы Свержань, Нясвіж, Мір, Любчу можна трапіць у Навагародак. Маршрут можа быць скончаны на чугуначнай станцыі Наваельня,адкуль можна дабрацца на дызелі да Баранавічаў. З Баранавічаў на электрычцы праз Менск можна вярнуцца ў Барысаў. Працягласць ванроўкі 170 - 190

# да замкаў

Часткова захаваліся дзве вежы, яшчэ горш трэцяя і фрагменты сцен.

**Нясвіжскі замак** закладзены ў 1583 годзе на месцы старога драўлянага замка. На працягу XVII - XVIII стагоддзяў неаднаразова перабудоўваўся. Памер замка 170x120 метраў. Мае моцныя земляныя бастыёны, палац, вежы і іншыя збудаванні.Добра захаваўся, часткова зберагліся аздоба інтэр'ераў. На тэрыторыі замка размешчаны санаторый.

У Нясвіжы, акрамя замка, захавалася **вежа** (пабудавана ў другой палове XVII стагоддзя) і **Слуцкая брама** (XVI стагоддзе) ад гарадскіх умацаванняў.

**Смальянскі замак** пабудаваны ў першай палове XVII стагоддзя. Меў пяць веж, палац і іншыя збудаванні. Разбураны ў XIX стагоддзі. Захаваўся фрагмент пяціяруснай вежы і сумежнага корпуса.

Акрамя вышэй узгаданых замкаў на Беларусі захаваліся земляныя ўмацаванні не менш чым 50 сярэдневечных замкаў.

Да нашага часу дайшло некалькі храмаў - крэпасцей.

**Быхаўская сінагога** пабудавана ў сярэдзіне XVII стагоддзя. Знаходзіцца ў аварыйным стане.

Касцёл у **Камаях** пабудаваны ў 1603-06 гадах. Мае дзве вежы. Мае абарончую вежу. Таўшчыня сцен да двух метраў. Добра захаваўся, дзейнічае.

**Маламажэйкаўская** царква ўзведзена паміж 1516 і 1542 гадамі. Мае чатыры вежы. Таўшчыня сцен месцамі дасягае амаль двух метраў. Добра захавалася, дзейнічае.

**Сынковіцкая** царква пабудавана напрыканцы XV - пачатку XVI стагоддзя. Таўшчыня сцен у ёй дасягае 1,5 метра. Мае чатыры вежы. Добра

кіламетраў, тры дні.

**Другі маршрут.** З Барысава на электрычках з перасадкай у Менску неабходна даехаць да Маладзечна. Адтуль сваім ходам трэба ехаць праз Крэва, Баруны, Гальшаны, Юрацішкі, Іўе, Ліпнішкі, Геранены, Гайцюнішкі ў Ліду. З Ліды на прыгарадным дызелі можна дабрацца да Маладзечна, адкуль зваротным шляхам вярнуцца ў Барысаў. Па шляху другога маршрута ў вёсках і мястэчках будзе шмат цікавых касцёлаў, цэркваў, мячэць і іншыя старыя архітэктурныя помнікі. Але неабходна памятаць, што Геранены і Гайцюнішкі знаходзяцца ў памежнай зоне і для іх наведвання неабходна афармленне адпаведных дакументаў. Працягласць вандроўкі каля 250 кіламетраў, чатыры дні.

Для знаёмства з Горадняй у яе можна даехаць без перасадкі з Барысава на пасажырскіх цягніках. Аднак, калі ў вас ёсць жаданне трапіць туды з роварам, то прасцей гэта зрабіць на прыгарадных цягніках. Неабходна выехаць з Барысава на прамой электрычцы да Баранавічаў у 22г. 59хв. Адтуль праз пэўны час ідзе прамы дызель да Горадні.

Маламажэйкаўская царква знаходзіцца каля станцыі Скрыбаўцы, да якой можна даехаць на дызелі Ліда - Горадня. Агляд Камайскага касцёла мэтазгодна сумясціць са знаёмствам з Паставамі, Блакітнымі азёрамі. Але неабходна памятаць, што Камаі знаходзяцца ў памежнай зоне. Агляд Сынкавіч мэтазгодна сумясціць са знаёмствам са Слонімам і манастыром у Жыровічах.

Дзеля знаёмства з Быхаўскімі ўмацаваннямі дастаткова аднаго дня - суботы. Для гэтага неабходна выехаць з Барысава ў ноч з пятніцы на суботу на электрычцы ў 1г. 07хв. У 3г. 10хв. вы будзеце ўжо ў Воршы. Адтуль у 4г. 16хв. адпраўляецца дызель на Магілёў, куды вы прыедзеце каля 6 гадзін ранку. З чыгуначнага вакзала адразу сваім ходам неабходна ехаць на Быхаў (каля 50 кіламетраў). Па дарозе вялікіх стаянак планаваць не варта. Лес радыяцыйна забруджаны. У Быхаве ў вас будзе дастаткова часу для агляду замка, сінагогі і наведвання музея. Днём на праходзячым прыгарадным дызелі можна вярнуцца ў Магілёў, азнаёміцца з яго гістарычнымі помнікамі і выехаць на дызелі ў Воршу. Адтуль у 20г. 16хв. адпраўляецца электрычка на Менск, якая каля 23 гадзін будзе ў Барысаве.

Падобным чынам можна пазнаёміцца з Воршай і Смальянамі.

Добрага вам шляху і незабыўных уражанняў!

***Ю.Гурэвіч***

Смальяны



Нясвіж. Замак





Геранёны

Быхаў. Замак

Крэва



Быхаў. Сінагога



# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

**2000**

*Новы Год - 1 студзеня*
*Каляды (праваслаўныя) - 7 студзеня*
*Дзень жанчын - 8 сакавіка*
*Дзень Канстытуцыі - 15 сакавіка*
*Вялікдзень (каталіцкі) - 23 красавіка*
*Вялікдзень(праваслаўны) -30 красавіка*

*Дзень працы- 1 траўня*
*Радаўніца - 9 траўня*
*Дзень Перамогі - 9 траўня*
*Дзень Незалежнасці - 3 ліпеня*
*Дзень Рэвалюцыі - 7 лістапада*
*Каляды (каталіцкія) - 25снежня*



Студзень

| п | а | с | ч | п | с | н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |
| 31 | | | | | | |

Люты

| п | а | с | ч | п | с | н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | | | | | |

Сакавік

| п | а | с | ч | п | с | н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | | |

Красавік

| п | а | с | ч | п | с | н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |

Травень

| п | а | с | ч | п | с | н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| 29 | 30 | 31 | | | | |

Чэрвень

| п | а | с | ч | п | с | н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | | |

Ліпень

| п | а | с | ч | п | с | н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |
| 31 | | | | | | |

Жнівень

| п | а | с | ч | п | с | н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | 31 | | | |

Верасень

| п | а | с | ч | п | с | н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | |

Кастрычнік

| п | а | с | ч | п | с | н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| 30 | 31 | | | | | |

Лістапад

| п | а | с | ч | п | с | н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| 27 | 28 | 29 | 30 | | | |

Снежань

| п | а | с | ч | п | с | н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | | |

# Юныя таленты

Барысаўская мастацкая школа з'яўляецца адной з лепшых сярод 60 аднатыпных школ у Беларусі. Работы навучэнцаў прымалі ўдзел у шматлікіх выставах на Беларусі і далёка за яе межамі (Японія, Егіпет, Галандыя, Кітай).

У гэтым нумары мы хочам пазнаёміць чытачоў з дзвюма таленавітымі вучаніцамі школы Лапо Святланай і Пугач Юліяй. Займаюцца дзяўчынкі ў дыферэнцыраванай групе пад кіраўніцтвам Сцяпана Якаўлевіча Клімчука. У такой групе займаецца ўдвая менш дзяцей, чым у звычайнай.



*Света Лапо*

У гаворцы Сцяпан Якаўлевіч выказаў цікавы погляд: «Малюнку можна навучыцца, як і матэматыцы. Талент - гэта добра, але не ўсё. На першы погляд, любы малюнак як бы паўтарае фотаздымак ці другую рэчаіснасць. Але прадметы на ім у арыфметычнай і геаметрычнай залежнасці. Ведаючы гэтыя прапорцыі, можна будаваць самыя складаныя кампазіцыі. У гэтым і заключаецца розніца малюнка ад фотаздымка. На малюнку кожная дэталь можа з'явіцца па жаданню мастака, нават тое, чаго няма ў рэальнасці.»

За час вучобы ў дзяўчынак не ўсё атрымлівалася адразу. Юля і Света з кожным годам паляпшалі сваё майстэрства. Кожная з іх упэўнена, што атрыманыя ў школе веды дапамогуць у далейшым жыцці. Юля марыць стаць архітэктарам, Света прадоўжыць вучобу.

Сёння амаль немагчыма паступіць у вышэйшую мастацкую вучэльню, не прайшоўшы ніжэйшую ступень навучання. Таму так настойліва працуюць над удасканаленнем свайго даравання Юля і Света.

***В.Пчолка***



*Юля Пугач*





# Прыродная лякарня

Элексір жыцця, маладосці... Ці існуе ён? Так. І яго нам дае сама прырода. Прадукты пчалярства - мёд, прапаліс, кветкавы пылок - заслугоўваюць нашай увагі і самай шчырай павагі. На Барысаўшчыне шмат аматараў, якія шмат часу аддаюць гэтай карыснай справе. Больш за 5 тысяч гадоў таму назад егіпцяне ўжо займаліся пчалярствам. Яны заўважылі, што ўжываючы мёд, яны станавіліся больш моцнымі і вынослівымі. Сучасныя вучоныя знайшлі каля 80 розных лекавых элементаў, якія станоўча ўплываюць на арганізм чалавека. Такім чынам, мёд можна назваць магутным галючым сродкам.

Пры прастудных захворваннях ужываюць мёд з цёплым малаком, з сокам лімона (сок 1 лімона на 100 г. мёду), мёд з сокам хрэну (1:1), робяць інгаляцыі. Доўгае ўжыванне мёду значна паляпшае агульны стан сардэчна-сасудзістага тонусу, жыватворна дзейнічае на сардэчную мышцу, карысна пры гіпертанічнай хваробе, кардыёсклерозе і інш. Мёдам лечаць гастрыт, язвенную хваробу. Пры гэтым у хворых нармалізуецца кіслотнасць страўнікавага соку, паляпшаецца склад крыві, паніжаецца ўзбуджлівасць нервовай сістэмы. Мёд узмацняе функцыі печані, садзейнічае супраціўленню арганізма інфекцыям, дрэнным уздзеянням, штодзённае ўжыванне садзейнічае нармальнаму функцыяніраванню кішэчніка. Мёд з часнаком паніжае ўзровень халестырыну, ачышчае сасуды. Тэрапія прадуктамі пчалярства прымяняецца пры туберкулёзе лёгкіх. Мёд робіць скуру мяккай і эластычнай, загойвае раны і апёкі. Самыя розныя ферменты, неабходныя арганізму чалавека, паскараюць рост маладога арганізму, мёд з'яўляецца крыніцай энергіі: у 100 г. яго утрымліваецца 315 кал.

Мёд, прапаліс і кветкавы пылок - гэта каштоўныя, біялагічна актыўныя прадукты. Прапаліс мае моцныя бактэрыяцыдныя ўласцівасці. Пылок утрымлівае медзь, жалеза, значна паляпшае склад крыві.

Для лекавых мэтаў мёд лепей за ўсё прымаць у растворыным выглядзе. Доза дарослага чалавека - 100-200 г. у суткі. Прымаць за 1,5-2 гадзіны перад ці праз 3 гадзіны пасля прыёму ежы. Дзецям даюць па 1-2 чайнай лыжцы ў дзень. Курс - 2 месяцы.

Кветкавая пыльца, ці пярга, таксама паляпшае склад крыві, нармалізуе дзейнасць нервовай сістэмы, паляпшае агульны стан арганізму, надае сілу і працаздольнасць.

Спіртавы экстракт прапаліса ўжываюць наступным чынам. 10-15 капель разбаўляюць невялікай колькасцю(30-50 г.) цёплай гатаванай вады і, прапаласкаўшы як мага больш рот і горла, - глытаюць. Такім чынам дэзінфіцыруецца ротавая поласць і насаглотка, а прыём ва ўнутр павышае бадзёрасць.

***І.Магуш***

